











АГУЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА РАСПАЎСЮДЖВАЕЦЦА Ў 48 КРАІНАХ

# Голас Радзімы

22 лістапада 2000 года
Цана 90 рублёў

№ 47 (2709)

Штотыднёвая газета для суайчыннікаў за межамі Беларусі
Выдаецца з 6 красавіка 1955 года

ВІНШУЕМ!



*Медаля Гонару Амерыканскага біяграфічнага інстытута ўдастоены прэзідэнт грамадскага аб'яднання "Міжнародная асацыяцыя беларусістаў", лаўрэат Дзяржаўнай прэміі, галоўны рэдактар бюлетэня "Кантакты і дыялогі", прафесар Адам Мальдзіс (на здымку). Імя Адама Мальдзіса добра вядомае ўсім, хто займаецца даследаваннямі беларускай літаратуры і гісторыі. Ён аўтар 12 кніг.*

**БелТА.**

ПАДЗЕЯ

## СОРАК ГОД "БЕЛТРАНСГАЗУ"

Беларускае дзяржаўнае прадпрыемства па транспарціроўцы і пастаўцы газу "Белтрансгаз" адзначае 40-гадовы юбілей. З гэтай нагоды з журналістамі сустрэўся генеральны дырэктар газавікоў Пётр Пётух, які адразу заўважыў, што "для ДП "Белтрансгаз" гэты тэрмін як узрост для мужчын: у 40 яны ў найлепшай форме. А калі мужчына яшчэ і сімпатычны, патрыёт, працаўнік, добра ставіцца да сваёй работы, любіць жонку і дзяцей, тут і зусім пытанняў няма".

Са слоў Пятра Пятровіча, на вынікі "Белтрансгазу" працавалі тысячы людзей розных спецыяльнасцей, у тым ліку і журналісты, якія асвятлялі дзейнасць галоўнай газавай установы краіны. Таму ў сувязі з 40-гадовым юбілеем, заверыў спадар Пётух, гэтая сустрэча з журналістамі не апошняя, бо да газавай тэматыкі акрэсліася "нейкая пэўная цікавасць: і таму, што 40 год, і таму, што сваім указам Прэзідэнт Беларусі ўзнагародзіў мяне ордэнам "Знак пашаны". На рэпліку аднаго з журналістаў, што такая ўвага Аляксандра Рыгоравіча да Пятра Пятровіча, магчыма, звязана з надаўнім 50-годдзем гендырэктара "Белтрансгазу", спадар Пётух сказаў, што "за юбілеі не ўзнагароджваюць, што, калі б не было нейкіх станоўчых вынікаў у рабоце, узнагарода прайшла б міма". "Я думаю, — адзначыў галоўны газавік краіны, — гэта не самае галоўнае. Важна тое, што за работай "Белтрансгазу", за арганізацыйнымі здольнасцямі яго кіраўніка стаяць мільёны людзей..."

Газ, як вядома, складае вялікую ўдзельную вагу ў энергетычным комплексе Беларусі: гэта электрычнасць, цяпло, прамысловасць, азотныя ўгнаенні. У прамысловасці ж, якую б яе галіну ні браць — хімія, пластмасавыя заводы, нафтахімія — усюды патрэбны гэты від паліва. Таму сёння, да слова, у Мазыры з яго 100-тысячным насельніцтвам вядзецца ўзмоцненая праца, каб перавесці яго на газ. І гэтую работу "Белтрансгазу" ўдалося ажыццявіць усяго за чатыры месяцы, таму ўжо 30 лістапада газаразмеркавальная станцыя будзе ўведзена ў эксплуатацыю.

Газавікам, безумоўна, ёсць чым пахваліцца. Менавіта вынікамі работы: адкрыццём і запускам першай чаргі газаправода Ямал — Еўропа, падземнага сховішча ў Высокім, даследаваннямі геафізікаў па пашырэнню тэрыторый захоўвання газу. На думку Пятра Пятровіча, работа праведзена адмыслова. Каб пазбегнуць пытанняў па газаправоду

Заканчэнне на 2-й стар.

ПАВЕДАМЛЕННЕ ПРЭС-СЛУЖБЫ МЗС

## НАПАДЗЕННЕ НА БЕЛАРУСКАГА ДЫПЛАМАТА Ў ВАРШАВЕ

У Варшаве 10 лістапада невядомыя асобы напалі на Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла Рэспублікі Беларусь у Чэшскай Рэспубліцы Уладзіміра Бельскага, які ехаў на службовым аўтамабілі з камандзіроўкі транзітам праз тэрыторыю Польшчы ў Чэшскую Рэспубліку. Аўтамашына была ўкрадзена. Пасол атрымаў пералом рукі, яму таксама былі нанесены іншыя цялесныя пашкоджанні. Неадкладна на месца здарэння У. Бельскім была выклікана паліцыя і паведамлена пра напад у пасольства Рэспублікі Беларусь у Польшчы.

Паліцыя, што прыбыла на месца здарэння, правяла першапачатковае следства. Па факту нападзення заведзена крымінальная справа.

13 лістапада бягучага года ў Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь быў запрошаны Часовы Павераны ў справах Рэспублікі Польшча ў Беларусі, якому выказаны пратэст у сувязі з гэтым здарэннем. Звернута ўвага польскага боку на неабходнасць прыняцця вычарпальных мер для раскрыцця злачынства і недапушчэння падобных фактаў у будучыні.

Было адзначана, што за апошні час пачасціліся выпадкі злачынных дзеянняў у адносінах да грамадзян Рэспублікі Беларусь, якія знаходзяцца на тэрыторыі Польшчы. Польскаму боку прапанавана прыняць дзейсныя меры для забеспячэння бяспекі грамадзян Рэспублікі Беларусь, што знаходзяцца ў Польшчы.

Адпаведная нота пратэсту перададзена польскаму боку па дыпламатычных каналах.

ПАЛЯЎНІЧЫ СЕЗОН

## НА ВІЦЕБШЧЫНЕ РОБЯЦЬ СПЕЦЫЯЛЬНЫЯ ТУРЫ ДЛЯ ЗАМЕЖНЫХ ГАСЦЕЙ

Спецыяльныя туры для замежных паляўнічых дазваляюць забяспечыць нармальную работу паляўнічых гаспадарак у Віцебскай вобласці, якія ў апошні час знаходзяцца ў складаным фінансавым стане. Пра гэта паведаміў галоўны паляўніцтвазнавец Віцебскага вытворчалесагаспадарчага аб'яднання Уладзімір Муравіцкі.

На думку апошняга, замежных паляўнічых прываблівацюць лясы Віцебшчыны, высокая шчыльнасць звера, адносна нізкі прэйскурант і даволі добры ўзровень сервісу.

Ён адзначыў, што, напрыклад, у мінулым годзе ў вобласці было арганізавана 36 спецыяльных тураў, у якіх прынялі ўдзел 78 замежных паляўнічых.

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ



● Сяргей ХАЛАДЗІЛІН.

Са стапеляў Гомельскага суднабудаўнічага-суднарамонтнага завода спушчана на ваду самаходнае судна класа "рака-мора" водазмяшчэннем 600 тон. Яно будзе выкарыстоўвацца ў гандлёвым флоце Беларусі. Па Дняпры сухагруз будзе спускацца ў Чорнае мора і далей па Дунаю стане дастаўляць сыпучыя грузы або кантэйнеры заходнім спажыўцам. Для большай эфектыўнасці перавозак сухагруз плануецца эксплуатаваць у сцэпцы з баржай. У выніку агульная грузападымальнасць складзе 1 500 тон. Будаўніцтва суднаў падобнага класа для гомельскіх карабелбудаўнікоў — справа новая. І тут прыйшлі на дапамогу спецыялісты з Кіева і Санкт-Пецярбурга.

НА ЗДЫМКУ: новае судна на дабудаўнічым пірсе, якое плануецца пакінуць ужо да навігацыі 2001 года.



## МЕРКАВАННЕ

**ТЭРМІН РАССЛЕДАВАННЯ ТРАГЕДЫІ НА СТАНЦЫІ МЕТРО "НЯМІГА" Ў МІНСКУ ПРАЦЯГНУТЫ ДА КАНЦА БЯГУЧАГА ГОДА.** Пракуратурай Беларусі прынята рашэнне аб прадаўжэнні да 31 снежня тэрміну расследавання крымінальнай справы аб прычынах трагедыі на станцыі мінскага метро "Няміга". Пра гэта заявіў Генеральны пракурор Беларусі Алег Бажэлка на прэс-канферэнцыі ў Мінску.

Вясной 1999 года ў выніку таўкатні ў падземным пераходзе станцыі метро загінула 53 чалавекі. Больш за 160 атрымалі раненні рознай ступені цяжкасці. Прычынай таўкатні стаў дождж з навальніцай, які пачаўся раптоўна. Некалькі тысяч грамадзян, што ўдзельнічалі ў гэты час у масавых гуляннях, паспрабавалі схавацца ад непагоды ў пераходзе метрапалітэна.

Па словах Бажэлкі, ход расследавання данай справы, якая складаецца з 14 тамоў, ужо разглядаўся на пасяджэнні калегіі пракуратуры. Па ім было праведзена 30 экспертыз і больш за 130 апазнаванняў. На пасяджэнні калегіі было прынята рашэнне, што пацярпелыя павінны мець магчымасць азнаёміцца з матэрыяламі расследавання.

Генпракурор паведаміў, што ў ходзе следства ў праваахоўныя органы ад пацярпелых ці іх сваякоў паступіў шэраг хадайніцтваў, дзе сцвярджаецца, што ім некваліфікавана была аказана першая медыцынская дапамога. Аднак следству гэтыя факты пакуль устанавіць не ўдалося.

**Віктар КНЫШ.**

## ПАКАЛЕННЕ-2000


Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.

Астранамічны цэнтр, створаны пры Гомельскім абласным ліцэі для паглыбленага вывучэння астраноміі і фізікі, працуе ўсяго год. Але тыя, хто вучыцца тут, проста фанаты нябесных даследаванняў. Нават з лекцыямі ў іншых школах горада выступаюць.

НА ЗДЫМКУ: на занятках у астранамічным цэнтры.

## КУЛЬТУРА БЕЗ МЕЖАЎ

**АРГЕНЦІНЕ ПРА БЕЛАРУСЬ.** У сталіцы Аргенціны Буэнас-Айрэсе на радыёстанцыі "RADIO JAI" прагучала перадача "Культура без межаў", прысвечаная Беларусі, у якой прыняў удзел першы сакратар Пасольства Рэспублікі Беларусь у Аргенцінскай Рэспубліцы Мікалай Ляніўка.

У ходзе радыёперадачы М. Ляніўка адказаў на пытанні слухачоў, а таксама асвятліў розныя аспекты жыцця Беларусі: геаграфічнае становішча, дзяржаўны лад, эканоміка, гісторыя, традыцыі, культура. У праграме прагучалі творы беларускай народнай музыкі, а таксама вершы Янкі Купалы і Якуба Коласа на іспанскай мове.

**Прэс-служба МЗС.**

## ПАДЗЕЯ

# СОРАК ГОД «БЕЛТРАНСГАЗУ»

Пачатак на 1-й стар.

Ямал — Еўропа, спадар Пётух прывёў канкрэтныя лічбы: першая лінія яго каштавала каля 70 мільёнаў долараў ЗША, другая абыдзецца прыкладна 24—25 (дакладны памер асігнаванняў будзе залежаць ад выкарыстанага абсталявання), а трэцяя — каля 20—22 мільёнаў амерыканскіх долараў. Усё гэта ў стане зрабіць сам "Белтрансгаз", зразумела ж, з блаславення Прэзідэнта і Ўрада Беларусі. Тым больш, што эканамічная эфектыўнасць газапровада Ямал — Еўропа, як кажуць, ляжыць на самай паверхні: у пік нагрузкі (асабліва ў зімовы перыяд) мы атрымаем магчымасці для стабільнага забеспячэння нашай краіны газам, а таксама набудзем валюту, якая пачне паступаць з Заходняй Еўропы за выкарыстанне транзітнага калідора для расійскага газу праз тэрыторыю Беларусі...

Што ж тычыцца падземных сховішчаў, тут таксама наспела неабходнасць іх будавання. Такіх "падземак" у свеце больш за 500. Жыццё прымусіла будаваць іх і ў нас, бо, як сведчыць сусветная статыстыка, 20 працэнтаў ад ужываемага газу той ці іншай краінай павінна захоўвацца — калі яна, зразумела ж, хоча мець энергетычную бяспеку, забяспечваць усе галіны народнай гаспадаркі прыродным газам. Таму і з'явіліся сёння ў свеце новыя тэхналогіі: прыродны газ зберагаюць метадам замарозкі, метадам звадкавання. Але апошні "Белтрансгазам" быў адхілены па прычыне яго дарагавізны...

Цяжкасці з забеспячэннем газам у нас, вядома ж, ёсць. Павялічыць яго аб'ёмы, акрамя як з дапамогай Расіі, мы не можам. Тое пацвердзіла паездка ў Туркменію. Беларусы канчаткова ўпэўніліся, што ім лепш супрацоўнічаць з Расійскай Федэрацыяй, бо выгадней купляць газ па больш нізкай цане ў расіян, чым пераганяць яго за 3 500 кіламетраў з Туркменіі. Сёння за расійскі газ мы плацім 30 долараў за тысячу кубічных метраў, у Заходняй жа Еўропе цана ўжо вагаецца ад 90 да 100 долараў. Зразумела ж, заніжаную цану нам Расія прапаноўвае толькі дзякуючы заключэнаму з ёю саюзнаму дагавору. Бо ў той жа Туркменіі мы куплялі б газ па 36 долараў за тысячу кубічных метраў плюс столькі ж за яго транспарціроўку.

Такім чынам, не без гонару заўважыў Пётр Пётух, на прыкладзе "Белтрансгазу" мы можам бачыць эфектыўнасць саюза Беларусі і Расіі. Таму ўсё гэта нам, беларусам, усходнім суседам прапаноўваецца не за прыгожыя вочы. Мы разам будуем газапровад Ямал — Еўропа, на працягу двух гадоў забяспечваючы транзіт расійскага газу ў Стары свет. Ніводнай прэтэнзіі ці то штрафной санкцыі "Белтрансгаз" ад сваіх заходніх партнёраў за гэты час не атрымаў...

Працаваць газавікам нялёгка. Трубаправодны транспарт — рэч складаная, якая патрабуе вялікай адказнасці і прыкладання максімальных намаганняў. Таму Пётр Пятровіч катэгарычна не згодны з выказваннем аднаго з журналістаў, што "пасля губернатарскага крэсла Пётуха ў якасці ўзнагароды пасадзілі на трубу".

**Алесь МЯСНІКОЎ.**

## СПОРТ



Чэмпіянат Еўропы па скачках на батуце прайшоў у Галандыі. Бліскуча выступіла на ім студэнтка Дзяржаўнага універсітэта імя П. Машэрава з Віцебска Галіна ЛЕБЕДЗЕВА (на здымку). Яна заваявала залаты медаль у сінхронных скачках.

**Аляксандр ХІТРОЎ.**

## ПАЛЯЎНІЧЫ СЕЗОН

### НА ВІЦЕБШЧЫНЕ РОБЯЦЬ СПЕЦЫЯЛЬНЫЯ ТУРЫ ДЛЯ ЗАМЕЖНЫХ ГАСЦЕЙ

Пачатак на 1-й стар.

Як патлумачыў У. Муравіцкі, паляўнічы тур прадугледжвае знаходжанне груп з 3—4 чалавек на працягу 7—10 дзён. У асноўным сюды прыязджаюць паляўнічыя з Германіі, Польшчы, Італіі, Бельгіі і іншых еўрапейскіх краін. Найбольшай папулярнасцю ў іх карыстаюцца паляўнічыя ўгоддзі Браслаўскага, Сенненскага, Расонскага раёнаў. У мінулым годзе замежнымі паляўнічымі на тэрыторыі вобласці было здабыта 23 ласі, 21 кабан, 2 казулі, 2 алені і некалькі дзесяткаў глушцоў і цецерукоў. У выніку паляўнічыя гаспадаркі зарабілі каля 90 тысяч германскіх марак і амаль 7 мільёнаў рублёў. Высочванне звера, падрыхтоўка маршруту і непасрэдная арганізацыя палявання забяспечваюцца прафесійнымі егерамі.

"Замежных паляўнічых цікавяць перш за ўсё паляўнічыя трафеі — рогі лася і алення, іклы кабана і гэтак далей", — адзначыў галоўны паляўніцтвазнавец аб'яднання.

Па ўстаноўленым прэйскуранце, здабыча лася, у залежнасці ад узросту, вагаецца ў межах 350—950 германскіх марак. За апрацаваныя рогі з чэрапам вагой 5 кілаграмаў паляўнічыя павінны заплаціць 1 200 марак. Іклы кабана даўжынёй да 14 сантыметраў будуць каштаваць ім 350 марак, больш за 14 сантыметраў — 450 марак. За параненага лася паляўнічы павінен заплаціць 1 тысячу марак, за кабана — 400 марак.

Для паляўнічых гаспадарак найбольш выгаднае паляванне на глушца, якому часцей за ўсё аддаюць перавагу італьянцы. Адзін здабыты глушэц абыходзіцца паляўнічаму ў 850 марак, цецярук — 250 марак. Акрамя таго, штосутачнае харчаванне і пражыванне паляўнічых ацэньваецца ў 120—150 марак на аднаго чалавека.

З пачатку паляўнічага сезона ўжо ў гэтым годзе на тэрыторыі Віцебскай вобласці пабывалі каля 30 замежных паляўнічых. Падобныя туры неабходна развіваць самым актыўным чынам, лічыць У. Муравіцкі. "У цяперашні час гэтаму садзейнічае і павелічэнне колькасці дзікага звера ў лясах Віцебскай вобласці", — адзначыў паляўніцтвазнавец. Па яго даных, згодна з улікам бягучага года, зарэгістравана больш за 5 тысяч ласей, амаль 600 аленяў, больш за 8 тысяч кабаноў і каля 9 тысяч казуль. Сярэдні прырост колькасці за год склаў 10—14 працэнтаў.

**Віктар ЛІС.**

## МАЛДАЎСКІЯ ЎРАЖАННІ

Дыпламатычны нумар машыны пазбавіў ад нечаканасцей. З Кішынёва ў Бендэры і Тыраспаль даехалі без затрымкі. Маімі спадарожнікамі былі консул беларускага пасольства ў Кішынёве, які рэгулярна наведвае Прыднястроўе па сваіх консульскіх справах, і Ганна Лапацьева, беларуска з Бендэр, якой і дарučылі быць маім гідам на працягу некалькіх дзён.

Пакідаючы прыцішаны, стомлены Кішынёў з сумнымі прыкметамі запусцення ў выглядзе безнадзейна састарэлых дамоў на цэнтральных вуліцах, мер кавала, што ў Прыднястроўі, якое перажыло на сваёй тэрыторыі ваенныя дзеянні і апынулася ў ізаляцыі, сляды разбурэння будуць больш прыкметныя.



# ПРЫДНЯСТРОЎЕ: ДЗЕСЯЦЬ ГАДОЎ ІЗАЛЯЦЫІ

І таму асабліва нечаканым аказаўся Тыраспаль: прасторны, пацяпершніх мерках, нават дагледжаны горад. З'явілася дзіўная адчуванне, нібыта трапіла ў іншую краіну, прасякнутую колішнім энтузіязмам ударных будоўляў. Да таго ж пачуццё небяспекі, перажытай вайны, поўная ізаляцыя рэгіёна наклалі асобы адбітак на атмасферу жыцця. Але гэта не прыгнечанасць, а энергічнасць, сяброўства, адзінства.

Ганна Лапацьева аднеслася да даручэння суправаджаць рэдактарку з Мінска з поўнай мерай уласцівай ёй энергіі. Гэтая своеасаблівая, мажная, гучнагалосая жанчына добра валодае перавагамі народнай дыпламатыі. Да яе асобы можа быць рознае стаўленне, але, без сумнення, Ганна Дзям'янаўна ўсюдыісны чалавек і не ведае перашкод у дасягненні мэты. Гэта супала і з маім жаданнем чуць з першых вуснаў і бачыць на свае вочы.

Каб аднавіць уяўленне аб сутнасці канфлікту, але не паглыбляцца ў гісторыю, нагадаю некаторыя падзеі. У свой час Левабярэжнае Прыднястроўе было састаўной часткай Рэчы Паспалітай, уваходзіла ў яе Брацлаўскае ваяводства. Пасля другога падзелу Польшчы перайшло да Расійскай імперыі, як і Бесарабія пасля Турэцкай вайны. На пачатку 1918 года Бесарабія трапіла пад кантроль каралеўскай Румыніі і была далучана да Савецкага Саюза толькі ў 1940-м. У жніўні таго ж года была створана Малдаўская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка, куды ўвайшлі Бесарабія і Левабярэжнае Прыднястроўе — да гэтага Малдаўская Аўтаномная Рэспубліка ў складзе Украіны. У час Вялікай Айчыннай вайны акупацыйныя

Пачатак у №№ 39, 40, 42.



НА АТРЫМАННЕ ДЗЯРЖАЎНЫХ ПРЭМІЙ

# ГУТАРКА НАПЯРЭДАДНІ

**У Беларусі сярод заахвочванняў у розных галінах чалавечай дзейнасці — і дзяржаўных, і недзяржаўных — найбольш ганаровая — Дзяржаўная прэмія Рэспублікі Беларусь. Сёння мы пазнаёмім чытачоў з сітуацыяй, якая склалася ў падкамітэце па Дзяржаўных прэміях у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры.**

— Кандыдатаў на атрыманне прэміі ў гэтым годзе шмат, — расказаў сакратар падкамітэта У. Жук. Не ўсе кандыдаты будуць увянчаны лаўрамі.

*— Удакладніце, калі ласка, па якіх намінацыях і колькі па кожнай будзе лаўрэатаў.*

— Па адной прэміі: імя Я. Купалы — за творы паэзіі і драматургіі, імя Я. Коласа — за творы прозы, працы ў галіне літаратуразнаўства і крытыкі, імя К. Каліноўскага — за творы мастацкай публіцыстыкі; за творы літаратуры і мастацтва для дзяцей і юнацтва; за значныя творы ў галіне журналістыкі; за арыгінальную архітэктуру грамадзянскіх, прамысловых збудаванняў у горадзе і на вёсцы; за даследаванні па тэорыі і гісторыі мастацтва і архітэктуры, а таксама падручнікі для спецыяльных навучальных устаноў у галіне архітэктуры і мастацтвазнаўства.

По дзве прэміі: за прызнаныя работы рэжысёраў, дырыжораў, балетмайстраў, хормайстраў, артыстаў, мастакоў, сцэнарыстаў, кампазітараў і драматургаў, аператараў тэатральных пастановак, кінастудый, на тэлебачанні; за музычныя творы буйных і малых форм, а таксама за канцэртна-выканаўчую дзейнасць.

Тры прэміі — за творы жывапісу, скульптуры, графікі, манументальна-дэкаратыўнага мастацтва, дызайну.

*— Валерый Іванавіч, якая тэхналогія прысуджэння прэмій?*

— Творы літаратуры і мастацтва, дызайну, архітэктуры, навуковыя працы прымаюцца для разгляду не раней, чым праз год пасля іх апублікавання ў друку, публічнага выканання, пабудовы. Творы літаратуры, журналістыкі, публіцыстыкі, выяўленчага мастацтва, архітэктуры, дызайну, навуковыя працы павінны быць апублікаваны, выстаўлены для публічнага прагляду, пабудаваны не болей чым за пяць год, а кіна- і тэлефільмы, тэатральныя, радыё- і тэлеспектаклі, канцэртныя праграмы публічна выкананы, паступілі ў пракат не больш, чым за тры гады да прысуджэння прэміі.

*— Чаму такія розныя тэрміны?*

— Дзяржаўныя прэміі прысуджаюцца з 1959 года. Практыка паказала, што такія тэрміны найбольш аптымальныя, каб ацаніць вартасць твораў.

*— Хто ацэньвае? Якая ў гэтым роля грамадскасці?*

— Мяркуйце самі, якая роля грамадскасці. Работы на атрыманне прэмій вылучаюцца міністэрствамі, іншымі цэнтральнымі органамі кіравання, арганізацыямі, творчымі, грамадскімі аб'яднаннямі, установамі культуры, навуковымі і вышэйшымі навучальнымі ўстановамі, працоўнымі калектывамі, рэдакцыямі газет і часопісаў. Рашэнне аб вылучэнні работ прымаецца адкрытым галасаваннем, а аб вылучэнні кандыдатаў на атрыманне прэмій — тайным галасаваннем з удзелам аўтараў работ. Рашэнні аб гэтым былі накіраваны ў наш падкамітэт да першага лютага.

*— Ці ўсе прапановы калектываў прымаюцца?*

— Не. Сёлета, напрыклад, былі прапанаваны творы, апублікаваныя не ў тыя тэрміны, якія я вам назваў. Але тое, паўтару, бывае рэдка. Частку твораў (невялікую) па тых ці іншых прычынах адхіліў падкамітэт. Вылучаныя творы абмяркоўваюцца ў сродках масавай інфармацыі. Наш падкамітэт свой погляд выказвае Камітэту па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь, а той накіроўвае яго на зацвярджэнне Прэзідэнту Беларусі.

*— Ці ёсць якія асаблівасці ў рабоце па прысуджэнні прэмій за 2000 год?*

— Хіба што толькі адна: ніколі не было столькі прэтэндэнтаў у намінацыі дзіцячая літаратура: іх ажно сем. А прэмія... адна. Што зробіш? Яна і дастанецца камусьці аднаму.

**Міхаіл ДЗЯНІСАЎ.**

# «ДЗІЦЯЧЫ» ГОЛАС Віктара ГАРДЗЕЯ

Па-рознаму прырода надзяляе пісьменнікаў талентамі. Адных — паэтычным, другіх — драматычным, трэціх — празаічным, яшчэ каго — публіцыстычным... Далёка не кожны паэт, нават таленавіты, можа напісаць прыстойны артыкул, не гаворачы ўжо пра апавяданне, аповесць. Мне не раз даводзілася сустракацца з такімі. Але ёсць пісьменнікі, надзеленыя шматгранным талентам. Такі Віктар Гардзей.

Нядаўна выдадзена чарговая кніжка яго вершаў — "Межань". Іх нельга чытаць адзін за адным. Над кожным задумваешся, асэнсоўваеш. Паэт дае багата фактаў для роздуму. Яго думкі, перажыванні, вывады, пачуцці — глыбокія і лірычныя.

Нядаўна пабачыла свет яшчэ адна кніга Віктара Гардзея — "Зайкава балалайка", вылучаная на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь. У ёй сабраны вершы для дзяцей аб прыродзе. Наогул у творчасці В. Гардзея прырода займае важнае месца не толькі па колькасці адведзеных ёй старонак. Яна, лічыце, ледзь не галоўны герой усіх яго твораў. А ў "Зайкавай балалайцы" — усіх.

Прачытаўшы кнігі Віктара Гардзея, я зразумеў, як ён любіць лясы, палі, лугі, рэкі, азёры, усё жывое... А ў вершах, аповесцях, апавяданнях, раманах так дасціпна, займальна расказвае і пра гарбуз, які павіс на плоце, і пра моркву, што "косы распусціла ганарліва на градзе", і пра жабу з буслом, які "хапіў жабу за каўтун", і пра камара, які радасна пішчаў:

*Я ўзляцеў ажно да хмар!*
*Неба сіняе вакол,*
*А ніжэй мяне — арол.*

*Не стрывай арол маны:*
*— Злазь, піскун, з маёй спіны!*

Лось, сава, месяц, сраказа, вожык, ліс, бабёр, янот, светлячкі, ласка, дзьмухавец — вось далёка не поўны пералік дзеючых асоб вершаў В. Гардзея для дзяцей. Для знаёмства выбраны характэрныя моманты з іх жыцця, цікавыя выпадкі, здарэнні. І расказана дасціпна, ярка.

Кніга "Зайкава балалайка" — не адзіны твор В. Гардзея для дзяцей і юнацтва. У кнізе "Межань" дадзена даведка пра творчасць паэта і празаіка. У ёй значыцца некалькі дзесяткаў яго твораў — кнігі прозы "Дом з блакітнымі акенцамі", "Карані вечнага дрэва", "Уратуй ад нячыстага", раман "Бедна басота", трылогія аповесцей "Аселіца з басейна Чорнага мора", пераклады на беларускую мову рамана Г. Флабэра "Саламбо", кнігі казак народаў Еўропы "Хрустальны калодзеж", казкі Х. Андэрсена, Ш. Перо і іншыя.

Чытачы, безумоўна, звернуць увагу на мову пісьменніка. Яна народная, дакладная, сакавітая. А яго творчасць вучыць дзяцей і юнакоў любові да роднай зямлі, беларускай мовы, дае разнастайныя веды.

**Мікола ДЗЕЛЯНКОЎСКІ.**

САЦЫЯЛЬНЫ РАКУРС



# «ЦЁПЛЫ ДОМ»

**Прэм'ер-міністр Беларусі Уладзімір Ярмошын прыняў удзел ва ўрачыстым адкрыцці новага дзіцячага дома № 7 у Мінску.**

**НА ЗДЫМКАХ: урачысты момант; новы дзіцячы дом № 7.**

**Фота Мікалая ПЯТРОВА,** *БелТА.*



лады ўчынілі падзел МССР на губернатарствы Бесарабія і Транснiстрыя (уключаючы Адэсу). Аднаўленая пасля вайны Малдавія праіснавала як саюзная рэспубліка да чэрвеня 1990 года.

Сучасная сітуацыя складвалася з наступных падзей.

28 чэрвеня 1990 года парламент Малдовы прымае рашэнне аб "незаконнасці вызвалення Бесарабіі 28 чэрвеня 1940 года і аб неправамернасці стварэння Малдаўскай ССР".

2 верасня 1990 года з'езд дэпутатаў Прыднястроўя ўсіх узроўняў з улікам вынікаў мясцовага рэферэндуму паведаміў аб стварэнні Прыднястроўскай Малдаўскай Рэспублікі.

22 снежня 1990 года Прэзідэнт СССР сваім указам аб'явіў абвяшчэнне Гагаузскай Рэспублікі і Прыднястроўскай Малдаўскай Рэспублікі не маючымі юрыдычнай сілы, а парламенту Малдовы прадпісваў перагледзець прававыя акты, якія прызнаюць факт уваходжання Бесарабіі ў СССР незаконным.

На сённяшні дзень Малдова — незалежная дзяржава, а статус Прыднястроўя пакуль не вызначаны. Напружанне застаецца, што непакоіць сусветную супольнасць. Але вырашыць гэты канфлікт пакуль не ўдаецца. Між тым у такіх умовах людзі жывуць ужо дзесяць гадоў. Якое ж гэта жыццё?

Як і ўсюды, мяне цікавіла стаўленне мясцовых улад да беларускай меншасці, афіцыйны погляд на становішча спраў у рэгіёне. Многія адказы на свае пытанні давялося пачуць у Вярхоўным Савеце.

Старшыня Вярхоўнага Савета непрызнанай Прыднястроўскай Малдаўскай Рэспублікі Рыгор Маракуца лічыць, што ўзнікненне гэтага новаўтварэння — вынік парушэння ў Малдове міжнацыянальных адносін.

ПМР утварылася ў верасні 1990 года, у 1992-м перажыла ваенны канфлікт, які каштаваў 700 ахвяр. Сярод загінуўшых — шэсць беларусаў.

Насельніцтва гэтага рэгіёна — 730 тысяч чалавек. Сёння сярод тых, хто тут жыве, каля 35 працэнтаў малдаван, 27 працэнтаў рускіх, 24 працэнты ўкраінцаў. Ёсць балгары, беларусы, яўрэі, палякі...

Яшчэ некалькі характэрных лічбаў для параўнання: Прыднястроўе — гэта 12 працэнтаў тэрыторыі, 17 працэнтаў жыхароў, 40 — валавога прадукта Малдовы. У пасляваенны час тут актыўна развівалася прамысловасць — Рыбніцкі металургічны завод уваходзіў у дзесятку найбуйнейшых у Еўропе. Праўда, цяпер вялікія прадпрыемствы, як і ваенна-прамысловы комплекс, — вялікі галаўны боль...

Непрызнаная Прыднястроўская рэспубліка за дзесяць гадоў існавання прыстасавалася да такіх умоў. Тут свае органы кіравання, свой бюджэт, свая эканамічная палітыка, падатковая сістэма... Дарэчы, вызначаны тры дзяржаўныя мовы: руская, малдаўская і ўкраінская. Дазволена свабоднае двайное грамадзянства. Ёсць і свае грошы з выявай палкаводца Суворава, з ім звязваюць узнікненне Тыраспаля. Сёння тут адзін долар эквівалентны 5 мільёнам 380 тысячам рублёў, а бохан хлеба каштуе 780 тысяч, літр малака — 1 мільён рублёў.

Станоўчая прыкмета мясцовага жыцця — пэўная сацыяльная абароненасць насельніцтва: пасільная плата за кватэру, святло, цяпло. Своечасова выплачваюцца пенсіі — яны складаюць 12—15 доляраў і даюць магчымасць жыць без даўгоў.

Адмоўная прыкмета — вялікая шчыльнасць насельніцтва цягне за сабой праблему беспрацоўя, асабліва сярод моладзі. Пры гэтым належную адукацыю можа атрымаць кожны: ёсць разнапрофільныя навучальныя ўстановы, у тым ліку і універсітэт.

У Прыднястроўі існуе некалькі беларускіх абшчын: Бендэрская, Тыраспальская, Слабадзейская, Рыбніцкая, Каменская... У тыраспальскіх беларусаў прызнаны лідэр — Тамара Ломцева. Увесь свой час і нават кватэру яна ахвяруе пад работу зямляцтва. Жвавая, нават у пенсійным узросце прывабная асаблівай беларускай жаноцкасцю, гэтая мініяцюрная жанчына ганарыцца ўзнагародамі за ахвярныя адносіны да параненых у час ваеннага канфлікту.

Створаная тры з паловай гады таму Тыраспальская абшчына аб'ядноўвае больш за 400 чалавек. А Тамара Ломцева з'яўляецца членам каардынацыйнага савета беларускіх суполак Малдовы, які ўзаемадзейнічае з пасольствам Беларусі ў Малдове.

**Наталля САЛУК.**

*Мінск — Кішынёў — Бендэры — Тыраспаль — Мінск.*

СТОП-КАДР

# ДРАНІКІ АД... ЭЛЕКТРАМАНЦЁРА

● **Сяргей ХАЛАДЗІЛІН**, *БелТА.*

Асноўная спецыяльнасць, якую набывае Дзмітрый Рослікаў у гомельскім прафтэхвучылішчы № 34, — электраманцёр. Разам з ёю ён атрымае тут і сумежныя — трактарыста і нават кулінара. На абласным кірмашы, прысвечаным 60-годдзю прафтэхадукацыі, што прайшоў нядаўна і дзе навучэнцы ПТВ Гомельшчыны прадстаўлялі свае дасягненні, Дзмітрый здзівіў наведвальнікаў выдатнымі беларускімі дранікамі ўласнай выпечкі.

*НА ЗДЫМКУ: дранікамі частуе будучы электраманцёр Дзмітрый РОСЛІКАЎ.*



**ДА 70-годдзя Уладзіміра КАРАТКЕВІЧА**

# ЯК У МАСКВЕ ВЫЙШЛІ «КАЛАСЫ ПАД СЯРПОМ ТВАІМ»

● **Валянціна ШЧАДРЫНА**, *Масква.*

Няхай будзе блаславёнай крымская зямля і асабліва яе залаты куток Кактэбель, дзе восенню 1971 года пазнаёмілася з Уладзімірам Караткевічам.

Да таго часу я ўжо тры гады працавала ў Саюзе пісьменнікаў СССР кансультантам па беларускай літаратуры, чытала шмат твораў Караткевіча, многа пра яго чула самых неверагодных гісторый. І наогул у Маскве Уладзіміра Сямёнавіча добра ведалі: ён вучыўся там на Вышэйшых літаратурных курсах і на Вышэйшых сцэнарных курсах. Здавалася, лёсу было б заўгодна, каб мы пазнаёміліся ў Маскве. Аднак знаёмства адбылося якраз у Кактэбелі...



*Уладзімір КАРАТКЕВІЧ, прафесар Карлава універсітэта, цяпер старшыня Чэшскай асацыяцыі беларусістаў Вацлаў ЖЫДЛІЦКІ і прафесар Варшаўскага універсітэта, цяпер старшыня Згуртавання польскіх беларусістаў пісьменнік Алесь БАРСКІ (Аляксандр Баршчэўскі). Здымак 1968 года.*

Мяне цікавіў Караткевіч як асоба, як незвычайны пісьменнік са сваім поглядам на гісторыю беларускага народа, яго культуру і мову. Мяне цікавіў паэт, які апантана абараняў правы свайго народа на ўласную гісторыю, культуру і мову. Я ўжо ведала, што Караткевіч за ўсё гэта "ўганараваны" небяспечным тытулам — нацыяналіст... Усім вядома, што ён не адпавядаў партыйным стандартам савецкага пісьменніка і з гэтай немалаважнай прычыны цяжка ўваходзіў у родную літаратуру. І зусім не выпадкова, што нацыянальным геніем яго назвалі толькі пасля смерці. А што пры жыцці? Пры жыцці яго цкавалі амаль за кожны верш, за кожны нарыс, ужо не кажучы пра яго цудоўную прозу...

Дык вось, Кактэбель, восень... Я іду ў кіёск па газеты. Каля праломіны ў плоце, праз якую найхутчэй можна было выйсці на бераг мора, сустракаю дзвюх жанчын і мажнога мужчыну, які размаўляў па-польску. Мне саступілі дарогу (я яшчэ падумала: "Якія ветлівыя палякі"), раптам адна з жанчын павіталася са мной. Я прыгледзелася: гэта была Лідзія Арабей. Мы разам вучыліся ў Беларускім дзяржаўным універсітэце, да таго ж адну з кніг пісьменніцы я пераклала для выдавецтва "Советский писатель". Мы даўно не бачыліся, і, вядома, такая нечаканая сустрэча была прыемнай. Раптам Лідзія Арабей кажа: "Вы не знаёмыя з Караткевічам?" І знаёміць мяне з мужчынам, які так паспяхова выдаваў сябе за паляка, і з яго жонкай Валянцінай Браніславаўнай. У мяне адняло мову: вось дзе наканавана было збыцца маёй мары! І ўсё выйшла так проста, па-будзённаму, што мне зрабілася нават крыўдна. Шырокімі вачыма я глядзела на Караткевіча і не верыла, што гэта Караткевіч, а ён тым часам ужо нешта казаў па-беларуску, і я адказвала таксама па-беларуску, чым неверагодна яго здзівіла: "Адкуль вы ведаеце беларускую мову?" Пачуўшы, што я з Палесся, з Нараўляншчыны, вельмі ўзрадаваўся, быццам сустрэў роднага чалавека. Размова пацякла далей, і тут Лідзія Арабей, дай Бог ёй здароўя, вазьмі і скажы: "Валя пераклала маю кнігу і зрабіла гэта нядрэнна. А чаму б і табе, Валодзя, не папрасіць яе перакласці свае "Каласы"? Караткевіч адказаў: "А што — і сапраўды паляшучка павінна ведаць мову маіх "Каласоў". Чаму б і не папрасіць?"

Мы дамовіліся сустрэцца вечарам.

Той вечар, здавалася, быў бясконцы. І бясконцай была пад добрае кактэбельскае віно гаворка пра літаратуру, пра жыццё. А пасля Валянціна Браніславаўна папрасіла мужа праспяваць яго любімую песню.

Як сёння памятаю: ласкавы подых мора, і Караткевіч на балконе. Калі пачула моцны, прыгожы голас і словы: "Ой косю, мой косю, чаму ж ты ня весел, чаму ж ты ня весел, галаваньку звесіў..." — то расплакалася. Гэта быў нейкі цуд, а я наогул люблю спевы, усё жыццё з задавальненнем спявала на розных бяседах, але тут пасля шматгадовага маскоўскага жыцця мяне зачаравала невядомая беларуская песня і сам гэты незвычайны голас. І ў сваім захапленні я не была адзінокая. Ніхто з насельнікаў Дома творчасці, што ўжо да гэтага часу паснулі, але прачнуліся ад песні Караткевіча, не выказаў свайго абурэння. Пэўна ж, усе слухалі гэты магутны голас, які пераймала горнае рэха.

Пасля былі іншыя вечары, іншыя песні, але той вечар застаўся ў памяці назаўсёды. Калі мы развіталіся, Уладзімір Сямёнавіч з упэўненасцю прамовіў: "Значыць так, прыеду ў Мінск і адразу ж напішу ў "Советский писатель", каб пераклад майго рамана даручылі вам".

6 кастрычніка 1971 года ён паведаміў мне:

*"Паважаная Валянціна Міканораўна! Усё дамоўлена. Напісаў пра усё С. Л. Кір'янаву і вельмі прашу Вас узяцца за нялёгкую працу — перакласці маю салому на каласы "великого, могучего, правдивого и свободного". Раблю гэта з палёгкай, даверам і надзеяй.*

*Абдымаю Вас я, жонка і, хоць мы яе й не бачылі, спадзяюся, Лідзія Арабей.*

*Ул. Караткевіч".*

І пачалося змаганне за кнігу. Я ж не ведала, што раман "Каласы пад сярпом тваім" ляжыць у выдавецтве з 1969 года, што на яго ўжо арганізаваны тры адмоўныя рэцэнзіі (3 жніўня 1969 года — Д. Осіна; 5 мая таго ж года — М. Гарбачова, а таксама П. Заянчкоўскага). Рэдактарам была прызначана А. Часнакова. Калі Д. Осін яшчэ больш-менш па-чалавечы абышоўся з аўтарам (звярнуўшы ўвагу на апісальнасць і нешматлікія стылістычныя хібы, раіў яму скараціць раман на 10 друкаваных аркушаў, бо ўсё ж бачыў у ім будучую кнігу), то М. Гарбачоў проста заявіў, што ў рамане не адлюстраваны прыгнечаны народ, шматтысячныя масы не раскрыты ў штодзённым жыцці і ў змаганні за свае правы. Адзін-два бунты супраць паноў не вырашаюць праблему... Аўтар захапіўся апісаннем жыцця буйна- і сярэднепамеснага шляхецтва, ён стварае ідылічныя малюнкі баляў і прыёмаў, піша пра шыкоўныя асабнякі і карцінныя галерэі, паэтызуе сцэны палявання. Усё гэта зніжае напал і складанасць змагання народа за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне. Алесь Загорскі і малады Кастусь Каліноўскі разам са сваімі сябрамі-студэнтамі гутараць і спрачаюцца пераважна "пра беларускую культуру і родную мову, пра адукацыю і інтэлігенцыю". І далей М. Гарбачоў пісаў: "...па гэтых прычынах, мяркую, не варта выдаваць раман на рускай мове. Раман "Каласы пад сярпом тваім", нягледзячы на вялікі аб'ём, не дасць усесаюзнаму чытачу глыбокага, дакладнага, гістарычна-канкрэтнага ўяўлення аб жыцці і змаганні беларускага народа ў 50—60 гг. мінулага стагоддзя".

Аднак заяўка К. Караткевіча на пераклад рамана ўсё ж была прынята, і рукапіс яго аддалі мне.

Пачалася праца.

17 красавіка 1972 года ад Караткевіча я атрымала такі ліст: *"...дазволь цябе павіншаваць. Пераклад проста цудоўны. Гэта й прымусіла мяне па цэлым дню сядзець над кожнай старонкай і... нічога не мяняць. Калі й рабіў якуюсь праўку, то заўсёды з пытальнікам — гэта значыць, тлумачыў сваё сумненне на тваю карысць. Табе б трэба самой пісаць. Гэта на самай справе добра і, галоўнае, — рэдкая асаблівасць — з павагай адносіцца да самога сябе і ў той жа час — да аўтара. Так і трэба. Усе заўвагі ў дадатку. Заўвагі падрабязныя, бо я паставіўся да тваёй цудоўнай працы не абы-як, як гэта робіцца звычайна. Аднак жа заўвагі мае маюць неабавязковы характар..."*

Мне было прыемна чытаць працытаваныя радкі, бо перакладу рамана я аддавала ўсю сябе, увесь свой час. Я шчыра радавалася кожнаму лісту Караткевіча і кожнай новай перакладзенай старонцы "Каласоў". Аднак не ўсё складвалася добра. Творчыя цяжкасці спатыкалі мяне на кожным кроку. Справа ў тым, што Караткевіч пісаў пра Падняпроўе, я ж нарадзілася на Палессі, і мне не заўсёды быў зразумелы той ці іншы выраз пісьменніка. Асабліва гэта тычылася назваў адзення, рэчаў хатняга ўжытку і, вядома ж, мовы герояў. Караткевіч цярплівы быў у сваіх цікавых і заўсёды арыгінальных тлумачэннях. Якая гэта была асалода працаваць з такім дасведчаным аўтарам! З беларускай мовы я пераклала больш 25 кніг, але, прызнаюся, такой творчай радасці, якую зведала ад прозы Караткевіча, не мела ад іншых твораў.

Уладзімір Сямёнавіч быў вельмі акуратны ў сваіх адказах, тлумачыў не толькі значэнне таго ці іншага слова, але і рабіў малюнкі, графічныя накіды розных невядомых мне прадметаў. Асабліва гэта тычылася старога посуду і зброі. Як каштоўную рэліквію захоўваю старонкі, спісаныя яго выразным почыркам, яго прапановы і абавязковыя варыянты перакладу таго ці іншага слова і канчатковае — маё слова, узятае з тэксту перакладу з характэрнай прыпіскай: "А, можа, так і лепей, хай застаецца".



*Малюнак Уладзіміра Караткевіча з надпісамі: "Аўтапартрэт — 1967", "Аўтапартрэт — 2000 г."*

У той жа час мы вельмі часта вырашалі пытанні па тэлефоне, званілі ў любую гадзіну сутак. Працавалі, як шчаслівыя вар'яты, і не адчувалі, што нас чакае бяда. 22 студзеня 1972 года, калі пераклад быў зроблены, нашы "добразычліўцы" з выдавецтва "Советский писатель" заказваюць новую рэцэнзію прафесару П. Заянчкоўскаму, якую той піша на адзінаццаці старонках. Прысуд прафесара безапеляцыйны: раман трэба цалкам перапісаць, бо ён не адпавядае гістарычным фактам.

Дык вось, выдавецтва не пашкадавала грошай, каб раман аб'ёмам 40 друкаваных аркушаў адрэцэнзаваць тройчы. Відавочна, што некім была пастаўлена задача: ні ў якім выпадку не друкаваць раман на рускай мове, не дапусціць яго да рускага чытача. А тут яшчэ пасыпаліся абсалютна недарэчныя заўвагі рэдактара рукапісу А. Часнаковай.

Дарэмна было спадзявацца на Караткевіча як на дыпламатычнага абаронцу свайго твора. У адным з лістоў ён мне пісаў (ліст, на вялікі жаль, без даты): *"Калі кожнае палажэнне кнігі, дзеля якой я працаваў у архівах 12 гадоў, трэба даказваць людзям, якія ў архівах і дня не пабывалі, — то гэта ўжо занадта. Падыміце і старыя мае доказы, я не баюся, што яны выказаныя рэзка, пакажыце і яму (Лесючэўскаму, дырэктару выдавецтва "Советский писатель". —* **В. Ш.***), і Часнаковай. Можа будзе горш. Але няхай. Я паважаю рэдактараў, але, не менш, паважаю і сябе. І я ведаю, што напісаў* **добрую** *кнігу, якую ў* **добрым** *перакладзе з задавальненнем прачытае і рускі чытач" (падкрэслена Караткевічам. —* **В. Ш.***).*

Па дапамогу звярнулася да Івана Мележа, які заўсёды высока ацэньваў творчасць Уладзіміра Сямёнавіча. Мележ прасіў пазваніць нашаму знакамітаму гісторыку Мікалаю Улашчыку, які тады жыў у Маскве. Я з удзячнасцю выкарыстала гэтую параду. Угаварыўшы чыноўнікаў выдавецтва аддаць рукапіс на рэцэнзію ў Інстытут славяназнаўства і балканістыкі (не паведаміўшы, вядома, шт[о] там працуе прафесар М. Ула[]шчык), мы неўзабаве, гэта значыць — 31 кастрычніка 1973 года, атрымалі цудоўны справядлівы водзыў М. Улашчыка. Рыпучая выдавецкая брама мусіла адчыніцца. Але не надта шырока. Нас чакалі новыя цяжкасці. "Пільнасць" пані Часнаковай не мела межаў, і ў літаральным сэнсе рэдактарка чаплялася за кожнае слова. Па маёй просьбе Уладзімір Сямёнавіч прыехаў у Маскву. Ён настаяў на тым, каб памянялі рэдактара.

Як бы там ні было, але ў 1974 годзе раман "Каласы пад сярпом тваім" выйшаў у "Советском писателе", а пасля неаднаразова быў перавыдадзены ў Беларусі.

Уладзімір Караткевіч быў адданым сябрам і гэтакім жа адданым аўтарам. Усе творы, якія з'явіліся да нашага знаёмства ці пасля яго і не былі яшчэ перакладзены на рускую мову, выйшлі з цягам часу ў маім перакладзе. А гэта — аповесці "Сівая легенда", "Дзікае паляванне караля Стаха", "Цыганскі кароль", раман "Чорны замак Альшанскі", а таксама шэраг апавяданняў, нарысаў, казак. Наша сумесная работа перарасла ў моцнае сяброўства, і доўжылася яно да апошняга дня Уладзіміра Сямёнавіча, да сумнай для ўсіх нас даты — 25 ліпеня 1984 года.



*Уладзімір Караткевіч — не толькі пісьменнік, але і акцёр, спявак, мастак. Яго малюнкамі можна было б ілюстраваць збор яго твораў. Многія з іх знаходзяцца ў прыватных руках — у хатніх альбомчыках, у розных выпадковых, часам канцылярскіх кнігах. Гэта сяброўскі шарж на літаратуразнаўцу Міколу Прашковіча. Подпіс: "А ты! Запісаўся ў беларусы?!!!!!!!!?!?!?"*

НАТАТКІ З НАГОДЫ

# ЗА ДАЛЯГЛЯДАМ ЗАБЫЦЦЯ

*У АКАДЭМІЧНЫМ ІНСТЫТУЦЕ ГІСТОРЫІ НЯДАЎНА АДБЫЛАСЯ АБАРОНА КАНДЫДАЦКАЙ ДЫСЕРТАЦЫІ Анатолем КОРСАКАМ "НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ МЕНШАСЦІ СМАЛЕНСКАЙ ГУБЕРНІ І ЗАХОДНЯЙ ВОБЛАСЦІ Ў ПЕРШАЕ ДВАЦЦАЦІГОДДЗЕ САВЕЦКАЙ УЛАДЫ".*

Абарона дысертацыі — рэч адмыслова прафесіянальная, прызначая для вузкага кола "пасвячоных", гэта значыць, людзей з высокімі навуковымі званнямі, выбранымі ў вучоную раду інстытута. Аднак не забараняецца тут прысутнічаць і "людзям збоку". Гэта звычайна сябры, родныя і блізкія дысертанта. Здараецца ж і такое, што на абарону прадстаўлена сенсацыйная тэма, а яе аўтар паспявае належна заявіць пра сябе ў друку. У такім разе гарантаваны "наплыў" у залу зацікаўленых асоб.

На гэты раз абаранялася праца, пазначаная бясспрэчнай навізной і значнасцю. Вось як гэта сфармулявана ў аўтарэфераце дысертацыі: "У дысертацыі даецца ўяўленне пра шляхі і метады рашэння нацыянальнага пытання ў рэгіёне са шматнацыянальным складам насельніцтва. Аўтар упершыню правёў комплексны аналіз дзейнасці мясцовых органаў улады па ажыццяўленню працы сярод людзей розных нацыянальнасцей у эканамічнай, палітычнай, сацыяльнай, культурнай сферы. Увядзенне ў навуковы ўжытак новых архіўных матэрыялаў дазволіла разгледзець пытанне аб узаемаадносінах людзей розных нацыянальнасцей, прычыны непаразуменняў і канфліктаў, што ўзнікалі між імі. Комплекс архіўных дакументаў, выкарыстаных у працы, дае таксама ўяўленне аб стасунках нацыянальных меншасцей з мясцовай уладай. Аналіз гэтых матэрыялаў дазваляе скарэкціраваць устойлівыя ўяўленні пра ступень вырашэння нацыянальнага пытання. У дысертацыі адлюстраваны працэс зніжэння актыўнасці ў нацыянальнай працы мясцовых органаў у канцы вывучаемага перыяду. Паказаны меры і метады, з дапамогай якіх зачыняліся нацыянальныя арганізацыі, установы, калектывы. Аўтар паспрабаваў па-новаму асэнсаваць палажэнні па нацыянальнаму пытанню, дэклараваныя ў асноватворных дакументах савецкай улады".

Выкладзена з улікам спецыфікі аўтарэферата сцісла і, зразумела, з найвышэйшай доляй абагульнення, расшыфроўка якога, зразумела, у самой дысертацыі — багата насычаная фактамі, лічбамі, падзеямі, імёнамі, дакументамі. Тут жа звернем увагу на радок пра даследаванне нацыянальнай палітыкі ўладаў "сярод людзей розных нацыянальнасцей у эканамічнай, палітычнай, сацыяльнай, культурнай сферы". Вытрымка цікавая як сведчанне аб'ёмнага, шырокамаштабнага падыходу да разумення нацыянальных праблем, якія ў нас вельмі часта трактуюцца звужана і зводзяцца да карыстання толькі роднай мовай, дый то не ўсюды і не заўсёды, а толькі ў побытавым і культурніцкім увасабленні.

Прызнаюся, для мяне сталася адкрыццём, што ў два першыя паслярэвалюцыйныя дзесяцігоддзі ў Расійскай Федэрацыі такая ўвага надавалася нацыянальнай праблеме, бо, як засведчыла даследаванне, на Смаленшчыне і Браншчыне былі створаны і працяглы час дзейнічалі своеасаблівыя мініаўтаноміі з прадстаўнікоў розных нацыянальных груп: яўрэйская, нямецкая, украінская, латышская і гэтак далей. Тут дзейнічалі сельсаветы, калгасы, прадпрыемствы, укамплектаваныя прадстаўнікамі той ці іншай нацыянальнасці. І афіцыйнай мовай у гэтых утварэннях, хай гэта не падасца дзіўным, была якраз не руская, а родная іншанацыяналам...

Сярод пераліку я знарок не згадаў беларусаў, якраз тое, чым, уласна кажучы, згаданая праца найперш цікавая нам. Перакананы: калі б па радыё, тэлевізары ці ў друку быў напярэдадні змешчаны адмыслова складзены анонс, то менавіта гэты беларускі аспект дысертацыі прывабіў бы на яе абарону шмат людзей "збоку", найперш моладзі, якая абвострана цікавіцца праблемамі нацыянальнага Адраджэння, прысутнасцю беларусаў у свеце. У гэтым сэнсе Смаленшчына разам з Браншчынай — край найбольш загадкавы і таемны ў кантэксце іншых рэгіёнаў кампактнага пражывання беларусаў за адміністрацыйнымі межамі папярэдняй БССР і цяперашняй Рэспублікі Беларусь.

Бо, з аднаго боку, вядома пра ролю Смаленшчыны ў станаўленні і існаванні старажытнай Беларускай дзяржавы, яе нацыянальнай культуры, а потым і ў іх адраджэнні, а, з другога, нейкая досыць дзіўная на сённяшні час сітуацыя, пры якой тут не засталося нават кволых праяў беларушчыны, якія, як бы мы да гэтага крытычна ні ставіліся, ёсць на Беласточчыне ў Польшчы (два беларускія ліцэі — у Бельску і Гайнаўцы, ды некалькі дзесяткаў так званых падставовых школ з беларускай мовай навучання, газета "Ніва", беларускамоўныя праграмы на радыё і тэлебачанні, аб'яднанне беларускіх пісьменнікаў "Белавежа" і іх часопіс "Тэрмапілы", ды досыць актыўная выдавецкая дзейнасць, музей беларускай культуры ў Гайнаўцы, нарэшце, Беларускае грамадска-культурнае таварыства і яшчэ з добры дзесятак іншых драбнейшых аб'яднанняў, згуртаванняў і звязаў). Разнастайныя формы існавання беларускасці ёсць на Віленшчыне ў Літве (дзеля эканоміі ад пераліку ўстрымаюся), сяк-так ацалелі і адраджаюцца ў Латгаліі (Латвія). А тут — хоць бы адзін кволы парастак беларускасці! І гэта пры тым, што абвяшчэнне БССР 1 студзеня 1919 года адбылося менавіта ў Смаленску, які пэўны час лічыўся сталіцай згодна з усімі афіцыйнымі дакументамі незалежнай Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Потым, праўда, Смаленск быў перададзены Расійскай Федэрацыі, але ж не адзін ён, а па сутнасці ўся Усходняя Беларусь, у тым ліку Віцебшчына, Гомельшчына, Магілёўшчына разам са сваімі адміністрацыйнымі цэнтрамі. Потым у выніку двух так званых узбуйненняў БССР гэтыя тэрыторыі былі вернуты назад, але Смаленшчына і Браншчына засталіся па-за адміністрацыйнымі межамі Беларусі.

Дык што ж там адбывалася, якая беларуская прысутнасць была на гэтых землях? Заканамернае пытанне, адказ на якое наш сучаснік хоча знайсці ў дысертацыі. Зусім зразумела, што ў кантэксце праблемы найперш цікава ведаць дакладныя лічбы, колькі беларусаў жыло на Смаленшчыне. Аднак гэта якраз тое месца, на якім статыстыка спатыкаецца. Бо ці ж не вядома, як яна была пастаўлена ў колішняй Расійскай імперыі, дзе ўвогуле доўгі час адмаўлялася права беларусаў лічыцца самастойным славянскім этнасам, бо яны, як і ўкраінцы, паводле афіцыйнай дзяржаўнай ідэалогіі, лічыліся ўсяго толькі адгалінаваннем "трыадзінага рускага кораня". "Спрадвеку на тэрыторыі Смаленшчыны, — зазначаецца ў аўтарэфераце дысертацыі, — пражывалі прадстаўнікі розных нацыянальнасцей. Гісторыя іх атабарвання ў гэтым краі, лёс кожнай нацыянальнай групы своеасаблівыя. Па розных прычынах апынуліся на смаленскай зямлі беларусы, яўрэі, латышы, літоўцы, палякі і іншыя.



Асобую складанасць уяўляе пытанне наконт колькасці тутэйшых беларусаў на Смаленшчыне. На пачатку XX стагоддзя тэрмін "Беларуская Смаленшчына" быў досыць распаўсюджаны. Рускія і беларускія даследчыкі XIX—XX стагоддзяў лічылі, што ў паветах Смаленскай губерні пражывала ад 50 да 90 працэнтаў беларусаў. Аднак афіцыйная статыстыка давала прынцыпова іншую карціну. Першы ўсеагульны перапіс насельніцтва Расійскай імперыі 1897 года вызначыў колькасць беларусаў у Смаленскай губерні ў 6,61 працэнта. У перапісах, статыстычных матэрыялах у пачатку XX стагоддзя і паслярэвалюцыйных колькасць беларусаў гэтага рэгіёна аказалася самая розная.

І справа, дабавім да сказанага, не толькі ў прымусовым вызначэнні "патрэбнай" афіцыйным уладам нацыянальнасці, але і ў свядомасці саміх беларусаў, якія на працягу стагоддзяў падвяргаліся дэнацыяналізацыі на самых розных узроўнях і ў самых розных формах. І вынік такога "прасавання" не мог не выявіцца і ў час паслярэвалюцыйны, калі афіцыйная палітыка ўлад у нацыянальным пытанні, здавалася, карэнным чынам змянілася. Ужыў слова "здавалася" не выпадкова, бо наіўна было б меркаваць, што раптоўна магла памяняцца свядомасць, псіхалогія і мараль як тых, на каго гэта палітыка была скіравана, так і тых, хто яе праводзіў у жыццё на розных узроўнях дзяржаўнай улады.

**Яўген ЛЕЦКА.**

*Працяг будзе.*

ЖЫЦЦЁВЫЯ СЮЖЭТЫ



## СЛЯПЫ МУЗЫКА

Ці не спрабавалі вы ўзяць сякеру, заплюшчыць вочы і пасячы дровы? Думаю, што такое шаленства не прыходзіла вам у галаву. Бо вынік гэтага эксперымента відавочны. А вось жыхар вёскі Малы Лес, што ў Чачэрскім раёне, Аляксандр Якубаў робіць гэтую справу віртуозна ўжо многія гады. З той пары, калі напрыканцы вайны страціў зрок. Для любога чалавека гэта трагедыя. Але далёка не кожны знаходзіць у сабе сілы не спіцца, не пайсці жабраваць, захаваць чалавечую годнасць.

Нялёгкая гэта справа — пачынаць усё нанава, навучыцца тым жыццёвым дробязям, якіх раней, у мінулым жыцці, нават не заўважаў. Менавіта з гэтых дробязей і пачаў Аляксандр Філіпавіч свой шлях да самастойнасці. Дзякуй Богу, знайшліся і людзі, якія падтрымалі, далі веру. І ў першую чаргу — жонка Ніна Лявонаўна. Разам выгадавалі прыгожых, адукаваных дзяцей, дачакаліся ўнукаў. Глядзіш, як завіхаецца па гаспадарцы Аляксандр Філіпавіч, і разумееш: гэты чалавек можа ўсё. Ніна Лявонаўна, як пра нешта звычайнае, расказвае, што калі мінулай зімой раптоўна папала ў бальніцу, то Аляксандр Філіпавіч спакойна адзін даглядаў унука.

Кропку ў шэрагу неверагоднасцей паставіў сам гаспадар, паведаміўшы, што не толькі добра іграе на гармоніку, але і рамантуе гэтыя музычныя інструменты.

НА ЗДЫМКУ: Аляксандр Філіпавіч і Ніна Лявонаўна ЯКУБАВЫ.

## САЛОДКАЯ ВАДА

Вядома, што вада са студні смачнейшая за водаправодную. І гэта не дзіўна: не трэба ачышчаць яе ніякім хлорам ці іншым рэчывам. Бо дбае пра гэта зямелька наша. І не толькі ачышчае, але і надае вадзе адпаведны смак — у кожнай студні розны.

У вёсцы Падазер'е Чачэрскага раёна студня такой глыбіні, што нават неба не адлюстроўваецца ў яе вадзе. Трэба добра папрацаваць, каб падняць вядро з гэтай бездані. Сцюдзёная, празрыстая, зіхаціць вада на сонейку. "Пачастуйцеся, — запрашае вясковец Уладзімір ДРАБЫШЭЎСКІ, напаўняючы сваё вядро. — Вада ў нас салодкая".

Тэкст і фота **Яўгена КАЗЮЛІ.**



ВЫСТАВЫ

## ДУХОЎНАЯ СПОВЕДДЗЬ ПЕРАД РАДЗІМАЙ

Так назваў сваю персанальную выставу вядомы беларускі графік, педагог і грамадскі дзеяч Уладзімір Басалыга.

Мастак, якому нядаўна споўнілася 60 год, шмат зрабіў на карысць Бацькаўшчыны. Па яго творах, як сказаў адзін з прамоўцаў на адкрыцці выставы, можна вывучаць гістарычную і культурную спадчыну Беларусі. І гэта сапраўды так. Серыя аўталітаграфій "Помнікі дойлідства Беларусі" не мае сабе роўных у беларускім мастацтве. Гэта ж можна сказаць і пра вядомы цыкл "Мова наша родная", дзе мастак выказаў свае адносіны да роднай мовы.

Многа працаваў У. Басалыга і ў галіне кніжнай графікі. Ілюстраваў творы беларускіх пісьменнікаў, дзіцячыя кніжкі. На выставе — ілюстрацыі да паэзіі Сяргея Законнікава, Васіля Віткі...

Плённая педагагічная праца Уладзіміра Басалыгі ў Акадэміі мастацтва, вядома, не знайшла адлюстравання на выставе. Але, безумоўна, яго вялікі творчы вопыт набывае працяг у творчасці яго вучняў.



Пры шырокай вядомасці мастака ўражвае яго сціпласць. Гэтая выстава — першая творчая справаздача Уладзіміра Басалыгі. І, будзем спадзявацца, — не апошняя.

**Яўген КАЗЮЛЯ.**

*НА ЗДЫМКАХ: мастак Уладзімір БАСАЛЫГА; "Палац у Нясвіжы" — адна з прац серыі "Помнікі дойлідства Беларусі".*

**Фота аўтара.**



ЗВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

ЛАТВІЯ

## ДАЎГАЎПІЛСКІ БАГАЧ

У Доме-музеі Райніса ў Беркенелях, што побач з Даўгаўпілсам, сябры беларускага таварыства "Уздым" разам з супрацоўнікамі Цэнтра беларускай культуры і Генеральным консульствам Рэспублікі Беларусь у Даўгаўпілсе правялі беларускае народнае свята Багач, якое вылілася ў своеасаблівы Дзень беларускай культуры. Сімвалічна, што гэтае свята праходзіла ў Райнісаўскім доме, бо вялікі латышскі паэт вельмі спрыяў беларусам у Латвіі.

Адкрываючы свята, консул Аляксандр Концкі запаліў вялікую свечку ў сявеньцы з зернем. Вучні беларускай нядзельнай школы і студэнты, якія вывучаюць спецкурс па беларускай мове ў ДПУ, паказалі абрадавае прадстаўленне свята Багач са снапкамі жыта і льну, з прыказкамі і прымаўкамі. Прысутныя, сярод якіх было нямала гасцей, рады былі паслухаць беларускія народныя песні ў выкананні ансамбля мясцовых беларусаў "Купалінка", паглядзець на беларускія танцы ў выкананні ансамбля "Чараўніцы" ЦБК. Аўтар гэтых радкоў прачытаў два свае вершы, прысвечаныя Я. Райнісу і святу Багач.

Незвычайнымі кампазіцыямі здзівіла прысутных выстава бароў палёў і агародаў. Вызначылі і пераможцаў, якія атрымалі прызы.

Віншаванні ў свой адрас атрымалі сябры "Уздыму", якія мінулым летам адзначылі юбілеі. А юбілярка Надзея Сазанкова пачула добрыя водгукі і пра выставу сваіх вясёлкавых акварэлей, размешчаных у адным з куточкаў гэтага гасціннага дома.

Гучалі застольныя тосты-прамовы гаспадароў і гасцей, сярод якіх быў рэдактар газеты беларусаў Латвіі "Прамень" Лявон Шакавец і старшыня таварыства дружбы "Латвія — Беларусь" Інара Мукане. Краналі сэрца беларускія песні, віхурыліся танцы пад баян, цешыла беларуская нацыянальная кухня з дранікамі і бульбаю з грыбамі. Багач яшчэ раз яскрава паказаў: беларускі народ багаты на цудоўныя святы, ён умее і працаваць, і святкаваць.

**Станіслаў ВАЛОДЗЬКА.**

СТАСУНКІ

## Сямён ДУБНОЎ: «ШАНУЙ КОЖНУЮ НАЦЫЯНАЛЬНАСЦЬ, ЯК СВАЮ ЎЛАСНУЮ»

Саюз беларускіх грамадскіх аб'яднанняў і абшчын, Магілёўская яўрэйская абшчына, грамадскае аб'яднанне "Рэспубліканскі фонд "Халакост" пры падтрымцы Амерыканскага аб'яднанага размеркавальнага камітэта "Джойнт" арганізавалі ў Магілёве ІІ Міжнародны абшчынны фестываль яўрэйскай кнігі ў Беларусі, у рамках якога адбыліся Дубноўскія чытанні "Спадчына Сямёна Дубнова і вывучэнне гісторыі яўрэяў у дзяржавах СНД і Балтыі", прысвечаныя 140-годдзю з дня нараджэння яўрэйскага гісторыка, публіцыста, грамадскага дзеяча.

Сямён Дубноў нарадзіўся ў 1860 годзе ў мястэчку Мсціслаўе Магілёўскай вобласці. У 1906-м пераехаў у Пецярбург, дзе з 1908 года пачаў выкладаць яўрэйскую гісторыю на курсах усходазнаўства і з 1919-га ў яўрэйскім народным універсітэце. З 1908 па 1918 год быў рэдактарам часопіса "Яўрэйская гісторыя".

У 1922 годзе пераехаў у Германію, а ў 1933-м — у Рыгу. Пасля акупацыі Рыгі нямецкімі войскамі С. Дубноў быў арыштаваны, загнаны ў гета, дзе вёў дзённік і працягваў навуковыя даследаванні. У студзені 1941 года яго ўключылі ў калону смертнікаў. Дакладная дата і месца гібелі С. Дубнова невядомыя.

У адным з першых гістарычных твораў "Што такое яўрэйская гісторыя?" С. Дубноў прадставіў гісторыю яўрэйскага народа. Ім напісаны "Падручнік яўрэйскай гісторыі", "Сусветная гісторыя яўрэйскага народа" (10 тамоў). Найбольш поўна С. Дубноў выказаў свае погляды на яўрэйства, яго патрэбы ў цыкле артыкулаў "Пісьмы аб старым і новым яўрэйстве".

Багаты матэрыял пра жыццё і дзейнасць С. Дубнова, пра яго эпоху надрукаваны ва ўспамінах "Кніга майго жыцця".

На Дубноўскіх чытаннях прагучалі даклады і паведамленні вучоных і краязнаўцаў з краін СНД, Балтыі аб ролі знакамітага гісторыка, публіцыста ў вывучэнні яўрэйскай гісторыі. На думку вучоных, чытанні палажылі пачатак глыбокаму вывучэнню спадчыны С. Дубнова, аб'яднанню краязнаўцаў, гісторыкаў, якія развіваюць яго вучэнне ў сваіх работах, былі ўнесены прапановы аб стварэнні міжнароднай грамадскай арганізацыі імя С. Дубнова і адпаведнага фонду.

**Анатоль БАБІЦКІ.**

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

## "АГНЁМ І МЯЧОМ" – У МІНСКУ

У мінскім кінатэатры "Масква" адбылася прэм'ера папулярнага польскага фільма "Агнём і мячом". Арганізатарам паказу выступіў Польскі інстытут у Мінску на чале з Цазарыем Карынскім.

Спачатку планавалася прадэманстраваць фільм 14-га кастрычніка. З боку Польскага інстытута было зроблена ўсё для правядзення сеанса: запрасілі акцёраў, рыхтавалі кінатэатр. Але беларускі бок не выканаў свайго абяцання, і прыйшлося перанесці дату. З-за гэтай недарэчнасці прэм'ера праходзіла сціпла.

Фільм "Агнём і мячом" здымаўся па раману Генрыха Сянкевіча славутым польскім рэжысёрам Ежы Гофманам. Так атрымалася, што першая частка знакамітай трылогіі была зроблена апошняй. Папярэднія фільмы "Пан Валадаеўскі" і "Патоп" выйшлі ў свет у 1968 і 1974 гадах. "Патоп" намініраваўся на прэмію "Оскар", аднак прайграў стужцы рэжысёра Феліні. Доўгі час Ежы Гофман не мог атрымаць згоду на экранізацыю першай часткі цыкла. "Агнём і мячом" называлі "антыўкраінскім" і нават "антысавецкім". Затым не маглі падабраць належны сцэнарый, шукалі спонсараў.

13 кастрычніка 1997 года пачаліся здымкі "Агнём і мячом". На працягу 188 дзён быў напрацаваны матэрыял, на падставе якога з'явіўся трохгадзінны мастацкі фільм. Упершыню ў гісторыі польскага кінематографа банк рашыўся прызнаць фільм і выдаў інвестыцыйны крэдыт для фінансавання стужкі. Акрамя інвестараў, дапамаглі спонсары. Усяго было затрачана 8,5 мільёна долараў.

У Еўропе стужка мае вялікі поспех. За кароткі тэрмін яна акупілася і пачала прыносіць прыбытак, а на фестывалі "Залаты Віцязь" разам з югаслаўскім фільмам падзяліла першы прыз.

Кінакрытыкі крыху скардзяцца, што слаба паказана гісторыя кахання. Аднак амаль ніхто не адмаўляе: "Агнём і мячом" — сапраўдны шэдэўр польскага кіно.

**Павел САМЕЦ.**

КОНКУРС

## ЦІ БУДЗЕ ПОМНІК Кірылу ТУРАЎСКАМУ Ў ГОМЕЛІ?



Фота БелТА.

Гомельскай абласной арганізацыяй Беларускага саюза мастакоў аб'яўлены конкурс на распрацоўку праекта помніка выдатнаму славянскаму асветніку XII стагоддзя Кірылу Тураўскаму. Помнік мяркуецца адкрыць у Гомелі. Першы тур конкурсу пераможцаў не вызначыў. Конкурсная камісія чакае новых прапаноў ад скульптараў.

НА ЗДЫМКУ: дырэктар Гомельскай славянскай бібліятэкі, на базе якой і праходзіць конкурс, Таццяна БЯЛАНАВА і мінскія скульптары ў час конкурснага прагляду.

ЛІТАРАТУРНАЯ

**Цяжка ўявіць сёння такое: у літаратурным часопісе выходзіць падборка вершаў паэта — і раптам становіцца падзеяй. У той жа час уявіць сабе аўтара з больш трагічным творчым лёсам, чым у мінскага паэта Якава Ясэпкіна, таксама складана. Дваццаць гадоў таму ў Маскве, дзе тады канцэнтравалася літаратурнае жыццё Саюза, яго вершы былі заўважаны і высока ацэнены паэтамі, якія належалі ў той час да вышэйшай літаратурна-партыйнай эліты. Але ж тая эліта і зрабіла ўсё, каб пазбавіць маладога тады паэта магчымасці надрукавацца. Яму спрабавалі дапамагчы Арсеній Таркоўскі, іншыя літаратары, але, тым не менш, — дваццаць гадоў маўчання. Толькі на пачатку 90-х у ЗША выйшаў зборнік гатычных вершаў "Касмаполіс архаікі", тыраж якога разышоўся імгненна, але гэта не зрабіла паэта знакамітым на Радзіме. Публікацыя ў часопісе "Першацвет" сталася першай ластаўкай. Пра Якава Ясэпкіна загаварылі. Для самога ж паэта, які пісаў заўсёды па-руску, цікаўнасць да яго творчасці стала нагодай паклапаціцца, каб яна ў поўнай меры належала Беларусі. Бліскучы перакладчык Уладзімір Скарынкін, які падарыў беларусам "Боскую камедыю" Дантэ, наступным матэрыялам для сваёй перакладчыцкай працы абраў вершы Якава Ясэпкіна.**

*— Якаў, вашы вершы ўражваюць, вымушаюць зноў і зноў да іх вяртацца... Ці адчуваеце вы сябе чалавекам, які ў творчасці дасягнуў мяжы?*

— Я павінен паўтарыць маё даўняе выказванне: у скарбонцы сусветнай літаратуры няма самых значных золата-алмазных шэдэўраў. Яны не існуюць у якасці нават метафізічнай рэальнасці. Ёсць забарона на абсалютную творчасць. Калі ўявіць, што яе аб'ект — нейкі агонь, які ззяе ўдалечыні, набліжэнне да яго караецца смерцю. Лепшыя літаратурныя творы не былі напісаны, бо ў вяках існавала гэтая фатальная забарона. Чалавеку, творцу нельга набліжацца да агню, да бездані. Вынік заўсёды адзін — духоўная або фізічная смерць. Можна хіба што гуляць па правілах, прапанаваных умоўнай рэальнасцю.

*— Вы вызначаеце свае вершы як гатычную паэзію. Які сэнс укладваеце ў гэтае азначэнне?*

— "Касмаполіс архаікі" быў створаны менавіта ва ўмоўнай рэальнасці. Мяне часта абвінавачвалі: кніга вельмі змрочная, цёмная. Але, наадварот, яна вельмі рамантычная, светлая. На самай справе ўсё куды змрачней. Эстэтызацыя смерці — літаратурны прыём. На яе выклік чалавеку няма чым адказаць, толькі крыкам: гэта і ёсць мастацтва. Так лічыў Камю. І тут трэба сказаць пра наступнае: у гісторыі, у нейкай — хай і вельмі працяглай — часавай прасторы застаюцца ў асноўным фатальныя творы. Фатальнае і гатычнае — у нечым сінонімы. Але першае вызначэнне больш аб'ёмнае. Да фатальных твораў (а іх ствараюць богавыбраныя мастакі) можна аднесці не толькі трагічныя, драматычныя кнігі. Апулей, Рабле не пісалі містэрый. Аднак яны былі фаталістамі. У гісторыі рускай літаратуры Сярэбраны век — эпоха росквіту літаратурнага фаталізму. Найлепшыя кнігі (з напісаных) ствараліся аўтарамі пасля

ГАСЦЁЎНЯ

**"Добры дзень, вы слухаеце радыё Бі-Эй, з вамі дзі-джэй Клаўс Мюлер" — гэта фраза рэгулярна гучыць у беларускім FM эфіры. Каму ж належыць голас з прыемным нямецкім акцэнтам? Некаторыя могуць убачыць гэтага чалавека ў праграме "Сталічны хіт", што ідзе па Першаму нацыянальнаму тэлеканалу, а тым, для каго гэта немагчыма, мы прапануем размову з дзі-джэем Клаўсам Мюлерам.**

***Даведка "ГР": Клаўс Мюлер — 29 гадоў, нарадзіўся ў Берліне, па прызванню — філолаг, мае другі дан каратэ (чорны пояс). Бацька — немец, маці і жонка — беларускі.***

# ДЗІ-ДЖЭЙ БІ-ЭЙ
# Клаўс МЮЛЕР



— Давай на "ты", — адразу прапанаваў Клаўс.

Прапанова была прынята.

**— Як ты апынуўся на радыё, што цябе сюды прывяло?**

— Дакладней сказаць, не "што", а "хто". Гэты чалавек — Дзмітрый Шунін (таксама дзі-джэй радыё Бі-Эй). Дзякуючы менавіта Шуніну, я і да гэтай пары "вяшчаю" на радыё Бі-Эй.

**— Як ты адносішся да Зямфіры, "Мумі Троля" і падобных гуртоў?**

— Добра. Асабліва да Зямфіры. Да "Мумі Троля" — крытычна, бо з ім у мяне адбылася непрыемная гісторыя... Мая жонка любіць "Муміка", і калі Лагуценка (лідэр "Мумі Троль") завітаў да нас у студыю, я папрасіў падпісаць дыск, куплены загадзя. Аказалася, што дыск "не такі" — левы, бо там спрошчаны варыянт вокладкі: не хапала нейкіх буклетаў. Лагуценка ўзрушана кінуў яго ўбок і заявіў, што пірацкія дыскі не падпісвае. А дыск быў фірменны і каштаваў нямала — 20 баксаў.

**— Чым павінна вызначацца жанчына, каб спадабацца Клаўсу Мюлеру?**

— Далікатнае пытанне... Яна павінна быць добрай, пяшчотнай і... спакойнай, як мая жонка.

**— Ці ёсць у цябе любімая страва?**

— Так. Гэта бульба. Смажаная беларуская бульба з маслам і кропам.

**— Як бы ты павёў сябе, калі б табе прапанавалі зняцца для PLAYBOYA?**

— PLAYBOY — мужчынскі часопіс. Таму я адрэагаваў бы адмоўна. Вось каб мне прапанавалі зняцца для якога-небудзь жаночага часопіса, я б падумаў над гэтым.

**— Дзі-джэй для цябе...**

— Прафесія і стан душы. Стан душы, таму што праца ў эфіры патрабуе пэўнага эмацыянальнага настрою. А прафесія таму, што за гэта я атрымліваю грошы.

**— Ты азартны чалавек?**

— Так, канешне.

**— У чым гэта праяўляецца?**

— У спорце — 15 гадоў займаўся каратэ — і ў гульнях праз Інтэрнэт.

**— Ці прыходзяць лісты з прызнаннямі ў каханні?**

— Канешне, вельмі часта. Яны ўсе пяшчотныя і цёплыя, але я не адказваю на іх, бо жанаты і не жадаю нікому даваць надзеі. У гэтых дзяўчат захапленне хутка пройдзе. Я ведаю, бо і сам быў такім у юнацтве.

**— У якой краіне маеш намер жыць?**

— Ведаеш, калі маеш магчымасць выбару, у якой краіне жыць, не робіш з гэтага праблемы. Мой бацька жыве ў Германіі, маці — у Мінску. На гэты час мне ў Беларусі больш цікава, менавіта таму, што жыў за мяжой. Тут жыццё не такое размеранае, як у Германіі, больш непрадказальнасці, напружання, разнастайнасці.

**— Дзе табе найбольш прыемна адпачываць: на дарагім іншаземным курорце ці на ўтульнай дачы?**

— На дачы. Мне так больш падабаецца.

**— Клаўс, які твой любімы гурт?**

— Гэта нямецкі гурт "Рамштайн".

**— Якія з беларускіх гуртоў выдзеліш?**

— Мне вельмі падабаецца "N.R.M.". Я стараюся сачыць за ўсімі навінкамі гэтага гурта. Ну а таксама Лепрыконсы.

**— Ці ёсць у цябе любімая песня?**

— Так. "Торн діспэйдж" гурта "Metallica".

**— А кветкі?**

— Я не люблю кветак, але дару з задавальненнем. Звычайна гэта ружы.

**— Якое любімае свята?**

— Дзень нараджэння.

**— Ці жадаў бы ты зняцца ў кіно?**

— А чаму б і не?!

**— Якога жанру была б гэтая стужка?**

— Баявік. Я люблю трукі і хацеў бы працаваць без дублёра. Альбо камедыя, бо вельмі падабаецца прыносіць людзям радасць і падымаць настрой.

**— Што ты пажадаў бы чытачам на развітанне?**

— Жадаю ўсім больш усміхацца. Гэта адзінае жаданне і мэта маёй працы ў эфіры. З вамі быў дзі-джэй радыё Бі-Эй Клаўс Мюлер. Да сустрэчы!

Гутарыў
**Глеб ЛАБАДЗЕНКА.**

КОНКУРСЫ




*Вясной наступнага года ў Мінску пройдзе конкурс "Міс Беларусь", а пакуль праводзяцца рэгіянальныя. У Барысаве адбыўся конкурс "Міс Прыгажосць-2000", на якім дзевятнаццаць удзельніц аспрэчвалі права называцца першай прыгажуняй Міншчыны, а галоўнае — прадстаўляць рэгіён на рэспубліканскім конкурсе.*

*Па словах намесніка дырэктара нацыянальнай школы прыгажосці Наталлі Траян, кампетэнтнае журы на працягу трох гадзін выбірала лепшую з лепшых. Ёю аказалася Наталля Дзмітрычэнка са Слуцка. Яна студэнтка II курса Дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя М. Танка ў Мінску.*

*Званне "Міс Зачараванне" атрымала прадстаўніца Слуцкага раёна Надзея Шутава. Наталля Дзяруга (Вілейскі раён) і Марыя Мікушына (г. Барысаў) сталі другой і першай віцэ-міс адпаведна. Дзяўчаты плануюць займацца мадэльным бізнесам і хочуць, каб беларускія прыгажуні былі прызнаны ва ўсім свеце.*

Тэкст і фота **Віктара ГАНЧАРЭНКІ.**

КІНОШНЫЯ БАЙКІ Дзмітрыя МІХЛЕЕВА

# КАРАСЬКІН, ГЕРОЙ УСІХ ЧАСОЎ І НАРОДАЎ

Вадзім, якога сябры клічуць "Сібір" за тое, што ў маладосці ён ездзіў у гэты знакаміты край то "за туманам", то "за грашыма", на Радзіму вярнуўся непапраўным рыбаком-фанатам. Шчодрыя сібірскія вадаёмы сапсавалі яго зусім. Тут яму не хапала прасторы, удаласці і, канешне, самой рыбы. Дзе тут у нас асятры ды гарбушы? Харыус ды лянок? Байкальскі омуль ды іншая беларыбіца? Вядома, там плотку ды карася і за рыбу не лічаць, а ў нас гэта тое, што трэба. Пасумаваўшы крыху, Вадзім перайшоў на мясцовую падводную жыўнасць. І тут ён, як сапраўдны фанат, не абмінаў ніводнай лужыны і ўмудраўся выцягваць з іх самых упартых жыхароў.

Прыехаў ён неяк да мяне на дачу, каб дапамагчы ў будаўніцтве лазні. Ну, папрацавалі мы з ім, а калі надакучыла, ён узяў вудачкі, і пайшлі мы на возера Астрашыцкае. Паўдня закідвалі кручкі, але безвынікова: мясцовыя цягалі сеткамі ўсё, што ў ім пражывала. Але няўдача толькі падштурхнула майго таварыша. Мне надакучыла, і я пайшоў дадому, а ён застаўся. Ужо настала халаднаватая ноч з поўным восеньскім месяцам, а яго ўсё не было. Вярнуўся ён а першай гадзіне ночы і моўчкі вываліў ў вядро змесціва рыбацкай сумкі. Я ачмурэў. У вядры плюскаліся адборныя карасі. І было іх чатырнаццаць штук!

Раніцай, за снеданнем "з карасямі ў смятане", ён расказаў, што, гойсаючы па тэрыторыі, у балоцістых кустах знайшоў нейкі штучны вадаём велічынёй з валейбольную пляцоўку. Прынюхаўся да яго і вырашыў паспрабаваць шчасця. І яно да яго прываліла. Ці то месяц тут быў вінаваты, ці то яшчэ нейкія касмічныя промні, але вынік быў у нас на патэльні. Нябывалы паўночны клёў пры поўным месяцы ўразіў нават бывалага сібірскага рыбалова.

Мы пражылі на дачы дажджлівыя выхадныя. Не працавалася і не рыбачылася. Ляжалі перад тэлевізарам, адпачывалі. Але ў панядзелак к вечару неба праяснілася, вецер сціх, і Вадзім пачаў наладжваць снасці. Адправіўся ён на тую ж сажалку. Доўга яго не было, вярнуўся толькі к поўначы. Прынёс аднаго карася такога ж, як і папярэднія. Вядома, у прыродзе стандартных сітуацый не бывае. Здавалася б — тая ж ноч, той жа месяц, тая ж сажалка, а клёў не параўнаць з тым, што было. Палюбаваліся мы нашым адзіным трафеем і запусцілі яго ў стары тазік з вадой, вырашыўшы выпусціць яго ў канаўку каля маёй дачы. Я накрыў тазік кавалкам фанеры, паклаў зверху абломак цэглы. З тым і пайшлі спаць. А раніцай мы паехалі. У мяне былі камандзіроўкі па здымках, Вадзім таксама некуды спяшаўся дабываць сродкі для існавання.

Сустрэліся мы з ім ужо ў пачатку лістапада. Чарговы прыступ рыбацкага азарту ў яго быў на пікавай вышыні. "Міця, паехалі! — тузаў ён мяне за рукаў, — там у сажалцы мае карасі плачуць, сумуюць без мяне, паехалі хутчэй!"

Мы паехалі. Дачы былі пустынныя. Каля голых дрэў стыла ў шэрані жухлае лісце, лужыны зіхацелі лакіроўкамі лёду. Пахадзіўшы па тэрыторыі, я наткнуўся на тазік, які быў накрыты фанерай. Зняў яе. У тазіку быў блакітнаваты лёд з цёмнай плямай пасярэдзіне. Я паклікаў Вадзіма. Ён падышоў, мы нахіліліся над тазікам. У цёмнай пляме ў сярэдзіне тазіка нешта варушылася. Мы з таварышам пераглядзелі адзін на аднаго і ўспомнілі. Гэта быў наш карась, пра якога мы забылі, кінулі на волю лёсу, здрадзілі яму. Прайшло больш за месяц, настала халады, тазік увесь прамёрз, і толькі невялікая пляма вады, якую абагравала цяпло загадкавай рыбы, заставалася на дне, дзе і плаваў наш слаўны Караськін-Карасевіч-Карасеўскі, як мы зараз жа ахрысцілі героя.

На нашы ўражлівыя воклічы зазірнуў сусед па дачы Раманыч. Ён таксама завохкаў, пакачаў галавой. Хіба такое магчыма? Больш за месяц у маленькім прамёрзлым тазіку, без харчу і кіслароду, што паступае ў ваду з атмасферы? "Не рыба, а адна тайна", — здзіўляліся мы сілам прыроды. А тут Раманыч нагадаў, што ў пяцідзесятых гадах чытаў у "Огоньке" артыкул пад назвай "Карась — а ці рыба гэта?" Мужык прыехаў з рыбалкі. Улоў ён прывёз у багажніку машыны ў двух вёдрах, загорнутых у брызентавае палотнішча. Вёдры па прыездзе забраў, машыну загнаў у гараж. Потым паехаў у адпачынак на поўдзень. Вярнуўся, сабраўся ў паездку. Вырашыў памыць машыну. Выцягнуў брызент, шчодра паліў са шланга свой "Масквіч". Правалтузіўся больш за гадзіну. Потым вырашыў прапаласкаць струменем і брызентавае палотнішча. А калі разгарнуў яго, то ўбачыў у мокрых складках двух жахліва схудалых карасёў. Яны варушыліся. Гэта было так неверагодна, што аўтар артыкула засумняваўся: карась — гэта рыба? Ці хто? Іншапланецянін? Чорт лысы? Вядзьмаркіна насенне? Божы твор, які паказвае нам толькі невялікія з бясконцай колькасці цуды матухны-прыроды?

Напэўна, некалі гэта будзе не толькі растлумачана, але і выкарыстана ў працяглых касмічных палётах — анабіёз, затрымка, замаруджванне біялагічных працэсаў у арганізме, стан арганізма паміж жыццём і смерцю, то, чаго могуць дасягнуць рэдкія высокапасвячоныя ёгі-настаўнікі і што сёння для нармальных абывацеляў падаецца нібы цуд, нібы паранармальная з'ява. "Няма тлумачэння ў Цуда, і я на гэта не мастак..." — гаварыў паэт.

Мы таксама не маглі даць адказ на гэтыя пытанні нават самім сабе. Адзінае, што мы зрабілі, — гэта прысвоілі нашаму Карасю званне Героя ўсіх часоў і народаў. З гэтым — урачыста аднеслі яго ў канаву, прабілі малады лядок і адпусцілі. Як узнагароду за подзвіг я высыпаў у лунку пачак старой аўсянкі "Геркулес". Пасля голаду і холаду, перамогшы пакуты зямныя, ад'ядайся, загадка Прыроды, геройскі Карась!

«Голас Радзімы»

Галоўны рэдактар
Наталля САЛУК

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом "Радзіма".

РЭДАКЦЫЯ:
Намеснік галоўнага рэдактара **Галіна УЛІЦЁНАК.**
Адказны сакратар **Таццяна КУВАРЫНА.**
Рэдактар аддзела — член рэдкалегіі **Яўген ЛЕЦКА.**
Рэдактар аддзела **Алена СПАСЮК.**
Аглядальнік **Леанід МАРАКОЎ.**
Спецыяльныя карэспандэнты **Яўген КАЗЮЛЯ, Алесь МЯСНІКОЎ, Нэлі ПРЫВАЛАВА.**
Рэдактар-перакладчык **Святлана КАРПУЧОК.**
Стыльрэдактар **Ірына КАЗЛОВА.**
Тэхнічны рэдактар **Данута РАКАВЕЦ.**

НАШ АДРАС: 220005, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: (+375-17) 213-31-97 (тэл.-факс), 213-32-80, 284-76-56, 213-37-82.

Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.
Падпісны індэкс у Беларусі 63854.
Тыраж 1 652 экз.
Зак. 2937.
Падпісана да друку 20.11.2000 г. у 12.00.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).